# ЗВЯЗДА

18 верасня 1996 г. серада, № 229 (23032)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў


## РОЗГАЛАС

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

### СЯМЁН ШАРЭЦКІ АТРЫМАЎ ПАДТРЫМКУ ДЭПУТАТАЎ

17 верасня аднавіліся пленарныя пасяджэнні Вярхоўнага Савета. А 16-й гадзіне слова ўзяў Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, які яшчэ раз выказаў сваю пазіцыю адносна сітуацыі ў краіне, сваю вострую занепакоенасць ёю. Сенсацыйным было тое, што Сямён Шарэцкі, ведаючы, што частка дэпутатаў збірае подпісы за адстаўку Прэзідыума і яго асабіста, сам папрасіў дэпутатаў выказацца на прадмет даверу свайму Старшыні. Гэтая прапанова выклікала працяглую палітычную дыскусію ў парламенце. Дэпутаты Мікалуцкі і Гарбуноў падтрымалі пытанне аб адстаўцы Шарэцкага і заклікалі дэпутатаў да недаверу Шарэцкаму. Дэпутаты Бухвостаў, Лябедзька, Шушкевіч, Грыб і Нісцюк наадварот, выказалі падтрымку Сямёну Георгіевічу. У. Нісцюк гэта зрабіў нягледзячы на тое, што ў свой час, вясною, менавіта ён распачынаў збор подпісаў за адстаўку Сямёна Шарэцкага.

«Сёння, калі жыццё пайшло ўразнос, нельга ўносіць у яго і ўнутрыпарламенцкую разборку», — зазначыў ён, матывуючы сваю пазіцыю. Паводле інфармацыі, атрыманай з неафіцыйных крыніц, частка дэпутатаў, у асноўным прадстаўнікі фракцыі «Згода», сапраўды падпісваліся за адстаўку Сямёна Шарэцкага, і было сабрана такіх подпісаў звыш сотні. Магчыма гэтыя дэпутаты не чакалі, што Сямён Шарэцкі пойдзе на такі крок самастойна і паставіць пытанне аб даверы сабе на разгляд парламента. Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Юрый Малумаў пацвердзіў, што сапраўды вёўся збор подпісаў за адстаўку Прэзідыума, аднак яму ўдалося пераканаць дэпутатаў, што гэта несвоечасовае пытанне і заклікаў дэпутатаў не ўключаць у парадак дня пытанне аб адстаўцы спікера. Урэшце рэшт, спрэчкі былі спынены і прапанова аб унясенні ў парадак дня пытання аб адкліканні Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага была пастаўлена на галасаванне. «За» прагаласавалі 22 дэпутаты, «супраць» — 74, 11 — устрымаліся. Сямён Шарэцкі падзякаваў дэпутатам за давер і абяцаў і далей працаваць добрасумленна, заклікаў дэпутатаў уносіць свае прапановы па паляпшэнні працы Прэзідыума. Такім чынам, на гэтым этапе Старшыня Вярхоўнага Савета пацвердзіў сваю легітымнасць і давер да яго з боку дэпутацкага корпуса.

Акрамя таго, у сваім выступленні Сямён Шарэцкі зазначыў, што ім перададзены два праекты Канстытуцыі, якія выносяцца на рэферэндум, у Канстытуцыйны суд для праверкі адпаведнасці іх канстытуцыйным патрабаванням аб змяненнях Асноўнага закона. Ён выказаўся таксама, што варта было б іх накіраваць на міжнародную экспертызу і ў сувязі з гэтым перанесці дату рэферэндуму на снежань.

Іншая нечаканасць прагучала з вуснаў лідэра фракцыі аграрыяў Мечыслава Гіруця, які зачытаў зварот фракцыі камуністаў і аграрыяў да дэпутатаў. Ён прапанаваў звярнуцца да Прэзідэнта і да 84 дэпутатаў, якія ініцыіравалі вынясенне на рэферэндум сваіх праектаў Канстытуцыі, з просьбай адклікаць свае праекты, пасля чаго стварыць сумесную пагаджальную камісію, у якую увайшло б па 10 чалавек ад Вярхоўнага Савета і Адміністрацыі Прэзідэнта, тэкст распрацаванага гэтай камісіяй праекта Канстытуцыі быў бы вынесены на усенароднае абмеркаванне і законным шляхам прыняты ў Вярхоўным Савеце, а калі па нейкіх пытаннях не будзе знойдзены кампраміс, то — на рэферэндуме. У бліжэйшы час Вярхоўны Савет, верагодна, будзе разглядаць гэтую праблему. Акрамя таго, лідэр фракцыі «Згода» Уладзімір Канаплёў заявіў, што ён разам з яшчэ 28 дэпутатамі прапануе перагледзець раней прынятую Пастанову Вярхоўнага Савета аб правядзенні рэферэндуму.

Натуральна, што тэма рэферэндуму дамінавала на сесіі Вярхоўнага Савета. Па праблеме рэферэндуму і давыбараў учора ў Авальнай зале выступалі таксама старшыня Цэнтрвыбаркома Віктар Ганчар і міністр фінансаў Павел Дзік.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

### ЗВЯЗАНЫЯ АДНЫМ ЛАНЦУГОМ: І БАСТУЕМ, І ПРАЦУЕМ РАЗАМ

**З 16 верасня аднавілі работу буйныя прамысловыя прадпрыемствы — Мінскі аўтамабільны завод і Мінскі завод колавых цягачоў. Нагадаем, што працоўныя прадпрыемстваў знаходзіліся тыдзень у чарговым вымушаным адпачынку.**

Спыненне заводаў тлумачыцца паўтарамесячнай забастоўкай на Яраслаўскім заводзе паліўнай апаратуры, у выніку якой не працаваў Яраслаўскі маторны завод — пастаўшчык рухавікоў для МАЗа і МЗКЦ. З панядзелка, 9 верасня, Яраслаўскі маторны аднавіў сваю работу, адпаведна, запрацавалі і беларускія гіганты. Як паведаміў генеральны дырэктар МАЗа Валянцін Гурыновіч, верасень-кастрычнік прадпрыемства работай будзе забяспечана.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

### ...УЗНІКЛІ ЦЯЖКАСЦІ З ЦЫГАРЭТНЫМІ ВЫРАБАМІ

**Распачаўшы барацьбу з нелегальным гандлем цыгарэтнымі вырабамі, пад «прыцэл» розных кантралюючых органаў трапілі (прычым нярэдка зусім беспадстаўна) і тыя суб'екты гаспадарання, якія гандлююць цыгарэтамі на законных падставах. Па тлумачэнні карэспандэнт «Звязды» звярнуўся ў Міністэрства гандлю краіны.**

Як там паведамілі, рэалізацыя тытунёвых вырабаў дазволена ў любым месцы, у якім суб'ект гаспадарання мае права гандляваць у адпаведнасці з ліцэнзіямі на рознічны гандаль і гандлёва-вытворчую дзейнасць, а таксама пры выкананні патрабаванняў заканадаўства. Адпаведнае тлумачэнне па рэалізацыі тытунёвых вырабаў у дробнарознічнай гандлёвай сетцы накіравана ўсім органам кіравання гандлем.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### КРЫВАВАЯ ПОМСТА ЗА ЗВАЛЬНЕННЕ З РАБОТЫ?

**12 верасня спынілася жыццё начальніка транспартнага цэха Гродзенскага вытворчага аб'яднання «Азот» П. Далгашэя. Забойца па стану на панядзелак яшчэ не затрыманы, аднак яго асоба ўжо вядома: гэта раней неаднаразова судзімы К., 1952 года нараджэння, які раней працаваў вадзіцелем і быў звольнены П. Далгашэем з работы. Верагодна, К. вырашыў адпомсціць начальніку. Зрэшты, на сённяшні дзень гэта толькі адна з версій.**

Карэспандэнту «Звязды», ды і следству пакуль дакладна невядомы абставіны трагедыі. Паводле некаторых даных, П. Далгашэй выгульваў сабаку і каля 7 гадзін раніцы вяртаўся дадому. Першы ўдар нажом у вобласць шыі К. нанёс сваёй ахвяры, магчыма, яшчэ на вуліцы альбо пры ўваходзе ў пад'езд. Другі ўдар быў нанесены на вачах жонкі П. Далгашэя, якая, пачуўшы крыкі, адчыніла дзверы кватэры. Нехта з суседзяў патэлефанаваў у міліцыю, а тым часам забойца кінуўся наўцёкі. Неўзабаве «засвяціўся» на КПП «Брузгі», падсеўшы з ваўчэрам у аўтамабіль да трох чалавек, каб перасячы беларуска-польскую мяжу. Але на той момант на мяжы ўжо мелі арыенціроўку на мяркуемага забойцу. Пагранічнікі пачалі праверку, але на нейкім этапе, напэўна, далі маху, бо К. удалося збегчы. Хочацца верыць, што шукаць яго будуць нядоўга.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 17 верасня 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| ФК «Вераніка» (за расійскія рублі) | 5410 | 5500 | 12400 | 12400 | 3.44 | 3.44 | 53-15-04 |
| Гал. упр. НБ па Мінску і Мінскай вобл. з улікам дылінг. прэміі | 18600 | | 11900 | | 3.20 | | 26-64-41 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» з улікам дыл. прэміі | 18400 | 18600 | 12000 | 12300 | 3.25 | 3.35 | 372-825 |
| Ф-л № 3 «Гарант» АСКБ «Тэхнабанк»* | 18590 5425 | 18600 5500 | 12320 | 12320 | 3.46 | 3.463 | 331-917 |
| АКБ «Аб'яднаны капітал» | 18550 | 18600 | 12300 | 12400 | 3.20 | 3.45 | 394-092 |
| СКБ «Тэхнабанк» з улікам дыл. прэміі | 18600 | 18600 | 12330 | 12330 | 3.463 | 3.463 | 342-242 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 14550 | | 9645.34 | | 2.71 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 5373 | | 3555.92 | | 100 бел. р. 28.10 | | |

*Інфармацыя прадастаўлена агенцтвам Граўцова.*



*Цымбалістка Вольга з вядомага музычнага гурта «Бяседа» перад чарговым запісам тэлеперадачы. І ёй пакуль не да «бяседы»...*

**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

### У ПАДТРЫМКУ РЭФЕРЭНДУМУ

Зварот да працоўных калектываў, інтэлігенцыі, палітычных партый і рухаў, усіх жыхароў вобласці ў сувязі з рэспубліканскім рэферэндумам, назначаным на 7 лістапада, прыняў 16 верасня Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт. У дакуменце адзначаецца, што Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка вырашыў параіцца з народам па важных пытаннях. Аднак яго ініцыятыва выклікала процідзеянне ў дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія вынеслі на рэферэндум свае тры пытанні, у тым ліку і праект новай Канстытуцыі, дзе наогул ліквідуецца пасада Прэзідэнта. Такія дзеянні парламента ідуць уразрэз з нормамі дзеючай Канстытуцыі, лічаць аўтары дакумента. На іх думку, парламент прадаўжае ганебную практыку ўцягвання часткі грамадства ва ўласныя палітычныя інтрыгі, рознагалоссі паміж выканаўчай і заканадаўчай уладамі, вядзе да расколу грамадства.

«Гарантам стабілізацыі становішча ў краіне, развіцця дружбы і добрасуседства з іншымі краінамі і народамі з'яўляецца Прэзідэнт», — падкрэсліваецца ў звароце. Яго аўтары разлічваюць на разуменне і супрацоўніцтва ўсіх палітычных партый, рухаў і аб'яднанняў грамадзян усіх нацыянальнасцей, якія жывуць на тэрыторыі вобласці.

**БЕЛТА.**

*УСЛЕД ЗА ПАДЗЕЯЙ*

### Ёсць спадзяванне, што рэфарміраванне аграпрамысловага комплексу атрымае заканадаўчы штуршок

**Словы, вынесеныя ў загаловак, круціліся на языку, блыталіся сярод думак недзе да сярэдзіны размовы за «круглым сталом» у прэс-цэнтры Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля на змену аптымізму, падагрэтаму перш-наперш дакладам міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Васіля Лявонава, прыйшлі некаторыя сумненні. Але ж аб усім — аб аптымізме і песімізме, сумненнях — па парадку.**

«Круглы стол», тэма якога — «Праект закона Рэспублікі Беларусь «Аб адаптацыі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь да рыначных умоў», сабраў разам даволі прадстаўнічае кола субяседнікаў. Хацелася б напісаць: «аднадумцаў»... На жаль... Але ж на тое і «круглы стол», каб да ісціны прыйсці ў спрэчцы і сумненнях.

Пачатак дыскусіі, да якой Вярхоўны Савет запрасіў прадстаўнікоў Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, навукоўцаў-аграрнікаў, кіраўнікоў лепшых гаспадарак краіны і, вядома ж, парламентарыяў-аграрнікаў, паклала хаця і лаканічнае, але даволі вострае выступленне намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Генадзя Карпенкі. У прыватнасці, Генадзь Дзмітрыевіч звярнуў увагу на даволі жорсткія і гнятлівыя лічбы-факты. Яны, на вялікі жаль, выразна сведчаць пра няпростую, мякка кажучы, сітуацыю ў аграпрамысловым комплексе дзяржавы. Скараціліся закупкі мяса і малака. Знізіўся валавы прадукт сельскай гаспадаркі. Значна паменшыўся трактарны парк калгасаў і саўгасаў.

Працягнуў размову міністр сельскай гаспадаркі і харчавання. На шчасце, дыскусія не ператварылася ў высвятленне пазіцый у адносінах да крызісу сельскай гаспадаркі ці ў пошуку адказаў на пытанне: «Ёсць ён — крызіс — альбо яго няма»? Адвечнае гамлетаўскае «быць альбо не быць» Васіль Лявонаў замяніў выразнай спробай у каторы раз выкласці сваю пазіцыю адносна перспектыў развіцця аграпрамысловага комплексу. Зараз жа падставай з'явілася спроба стварэння заканадаўчай базы для рэфарміравання калгасаў і саўгасаў.

Дарэчы ўзгадаць тут наступную акалічнасць. Па словах міністра, з усіх прыблізна 2000 калгасаў і саўгасаў 70 гаспадарак знаходзяцца на тым альбо іншым узроўні рэфарміравання. Якімі ж законамі кіруюцца гэтыя 70? Выплачваючы падаткі, выконваючы дзяржаўныя заданні па нарыхтоўцы, у прыватнасці збожжа, спадкаемцы калгасаў, што сталі на шлях акцыяніравання, у любы момант могуць трапіць пад дамоклаў меч пракуратуры. Няма таго закона, які б прадугледжваў механізм рэфарміравання формаў уласнасці.

Што ж у такім разе прадугледжвае закон аб адаптацыі сельгаспрадпрыемстваў да новых рыначных умоў? Адзін з раздзелаў яго праекта — «Пераўтварэнне калгасаў у новыя арганізацыйна-прававыя формы гаспадарання» — падае парадак, механізм ажыццяўлення перамен. Рашэнне па рэструктурызацыі калгаса прымаецца агульным сходам калектыву, на якім выбіраецца таксама ўнутрыгаспадарчая камісія, зацвярджаюцца яе функцыі. Пасля адбываецца выбар канкрэтнай арганізацыйна-прававой формы гаспадарання. Вось тут і ўлічваецца ўжо існуючая заканадаўчая практыка. Выбар можа быць зроблены наступны: акцыянернае таварыства, таварыства з абмежаванай адказнасцю, калектыўнае сельскагаспадарчае прадпрыемства і іншыя формы, не забароненыя заканадаўствам. Складаецца план рэструктурызацыі.

У праекце закона, здавалася б, улічаны ўсе акалічнасці, без якіх немагчыма правесці рэфарміраванне гаспадарак. Найбольшую складанасць выкліча, безумоўна, змена формаў уласнасці, сам працэс акцыяніравання. На вастрыні рэформы, і гэта падкрэсліў Васіль Лявонаў, знаходзіцца чалавек. Забягаючы наперад, трэба заўважыць, што так ці іначай гэты аспект закранапі і наступныя ўдзельнікі дыскусіі. Магчыма, сённяшняя сітуацыя падзення росту сельскагаспадарчай вытворчасці звязана і з тым, што, працуючы на вёсцы, жывёлавод, механізатар, адрабляючы адно толькі сваю зарплату, не адчуваюць сябе гаспадарамі, не надта перажываюць за канчатковы вынік. Ці не таму адзін з выступаўшых, кіраўнік, між іншым, вядомай, славутай, трывалай гаспадаркі (а яна, дарэчы, называецца сельскагаспадарчым кааператыўным прадпрыемствам), заўважыў літаральна наступнае: што тыя рэформы? Да чаго і навошта законы? Галоўнае — навесці ў дзяржаве парадак з цэнамі. Вось, маўляў, паглядзіце, далі грошы за збожжа. А цэны на бензін імгненна падскочылі. Перапрацоўшчыкі зацягваюць выплаты за здадзеную прадукцыю, а тым часам курс долара маўкліва паўзе ўверх. Праблемы? Так, праблемы.

Але ніхто не перашкаджае ставіць і вырашаць іх побач з працэсам увогуле рэфарміравання. Не перашкаджае і не забараняе. А з прыняццем закона, праект якога разглядалі аграрыі, — будуць і падштурхоўваць. Здавалася б, ужо існуючы вопыт «Рассвета» (закрытае акцыянернае таварыства) павінен быў бы больш рашуча прыкладам сваім падштурхоўваць. На жаль, падштурхоўвае толькі адзінкі гаспадарак. Шкада, што не прыняў удзел у размове сам Старавойтаў Васіль Канстанцінавіч — старшыня праўлення ЗАТ «Рассвет» і галоўны генератар рэфарміравання, пераабсталявання эканомікі кіраўскай гаспадаркі. За спіной лягчэй і крытыкаваць «Рассвет» (агульна, не вельмі ўнікаючы ў справу) было.

Адзін з распрацоўшчыкаў закона аб адаптацыі дырэктар БелНДІ эканомікі і інфармацыі АПК Уладзімір Гусакоў звярнуў увагу на тое, што з дадзеным заканадаўчым дакументам спазніліся на 4-5 гадоў. Ужо на пачатку 1990-х сельская гаспадарка павінна была рухацца па акрэсленаму зараз шляху. Але добра, што хоць зараз зроблены той даўно патрэбны крок. Уладзімір Рыгоравіч заўважыў і наступнае: патрэбны і іншыя законы — у прыватнасці «Аб банкруцтве», «Аб дзяржаўных закупках і збыце», «Аб прадуктовай бяспецы Рэспублікі Беларусь» і шэраг іншых.

**У адным удзельнікі дыскусіі аказаліся аднадушнымі: будучыня — за буйной сельскагаспадарчай вытворчасцю. Але ж ці здолеем мы яе нават у няблізкай будучыні рэфарміраваць такім чынам, каб яна хоць болей-меней нагадвала аграрны сектар Усходняй Германіі, да вопыту якой неаднойчы апелявалі найболей радыкальныя ўдзельнікі дыскусіі за «круглым сталом»?**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*...ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

### ПЕДАГОГАМ ЗНОЎ НЕ ПЛАЦЯЦЬ ЗАРПЛАТУ

У сферы адукацыі з пачаткам новага навучальнага года зноў адзначаецца рэзкі ўзлёт запазычанасці па выплаце заработнай платы. Жнівеньскіх грошай настаўнікамі не атрымана ў рэспубліканскім маштабе на суму 22,5 мільярда рублёў. Найбольшыя лічбы доўгу за Мінскай вобласцю — 8,004 мільярда рублёў, Гродзенскай — 5,66 і Віцебскай — 5,017. Крыху лепшае становішча на Брэстчыне — 2,375 і Гомельшчыне — 1,479. Што датычыцца Магілёўскай вобласці, то там выплачваюцца жнівеньскія заробкі аж да сярэдзіны верасня, так што дакладных даных аб памерах запазычанасці адтуль пакуль не паступала.

Міністэрства працы сумесна з Міністэрствам адукацыі і навукі ўжо прыступіла да змяненняў у налічэнні настаўніцкага заробку, таксама педагогам павінны забяспечыць абвешчанае прэзідэнцкім указам выдзяленне прэмій у памеры да пяці «мінімалак». Аднак, як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў галіновым прафсаюзе настаўнікаў, гэта пытанне пакуль застаецца нявырашаным — ні Міністэрства працы, якое занята ўдакладненнем умоў аплаты, ні Міністэрства фінансаў, якое павінна прадаставіць крэдыты, пакуль рэальна нічога не абяцаюць.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*СКАНДАЛ*

### ЖЫРЫНОЎСКІ ФАКСУЕ ХЛУСНЁЙ І БРЫДОТАЙ

Незвычайную рэакцыю на сітуацыю ў Беларусі выказаў дзівакаваты лідэр ЛДПР Уладзімір Жырыноўскі, прэс-служба фракцыі якога накіравала ў Вярхоўны Савет і некаторыя мінскія газеты брыдкае і хлуслівае пісьмо на імя Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага. Ліст быў пасланы ў сувязі са зваротам С.Шарэцкага «Людзі, будзьце пільнымі! У рэспубліцы запахла фашызмам!», які востра і часам нецэнзурна крытыкуецца Жырыноўскім. Уладзімір Вольфавіч як быццам падтрымлівае ў сваім лісце палітыку Аляксандра Лукашэнкі, аднак апошняму, відаць, зусім няёмка будзе ад такой бруднай «падтрымкі».

У гэтым пісьме прыводзяцца нейкія «падрабязнасці», якіх не было і не магло быць падчас красавіцкага візіту парламенцкай дэлегацыі на чале з Сямёнам Шарэцкім у Маскву: быццам бы былі нейкія паездкі на дачу Жырыноўскага, выпіўка, закуска, дзяўчынкі, быццам Шарэцкі прасіў здабыць яму дублёнку... Што быццам бы Жырыноўскі атрымаў ад амерыканскага пасла для Шарэцкага ганарар за нейкую работу і г.д. Працытаваць што-небудзь з гэтага паслання не ўяўляецца магчымым з-за непрыстойнасці стылю, з-за шматлікіх брыдкіх слоў і намёкаў. Акрамя таго, Жырыноўскі прыводзіць свае напаўгістарычныя разважанні наконт Гітлера і спецыфікі фашызму, робіць па ходу антысеміцкія выпады і пагражае новым пісьмом, яшчэ больш «крутым»...

Азнаёміўшыся са зместам такога вось ліста, мне чамусьці захацелася неадкладна вымыць рукі. І адразу ўзяло сумненне, што нават Жырыноўскі мог такое напісаць... Аднак у прэс-службе фракцыі ЛДПР у Дзярждуме Расіі нехта Аляксей Батагоў пацвердзіў, што гэта зусім не фальшыўка, не чарговая «галандская вутка», што такія факсы за подпісам Жырыноўскага ён асабіста пасылаў у Мінск... Нават параіў выкарыстаць гэты ліст, каб прыцягнуць увагу чытачоў падчас падпіснай кампаніі. Што ж, можа для прэсы ЛДПР гэткія публікацыі і норма, у нашых жа чытачоў такія тэксты нічога апроч агіды выклікаць не могуць.

Сямён Шарэцкі, атрымаўшы такі ліст, быў крыху разгублены і ніяк не мог дазволіць сабе паверыць у сапраўднасць такога паслання. Сустракаючыся з журналістамі, ён гатовы быў прыпісаць яго аўтару твораў «пра сцюардэсу». Сямён Шарэцкі раздаў журналістам праграму таго красавіцкага візіту ў Маскву і расказаў аб тым адзіным спатканні з Жырыноўскім падчас афіцыйнага прыёму ў Дзярждуме, калі Жырыноўскі, спяшаючыся, сышоў нават раней часу. Той візіт быў сапраўды перагружаны рознымі сустрэчамі ў расійскім парламенце, з вышэйшым кіраўніцтвам Расіі, нават часу не магло быць на нейкія там лазні — як журналіст, які асвятляў тады візіт беларускай парламенцкай дэлегацыі, магу гэта засведчыць.

— Я ўпэўнены, што ўсё гэта не з Думы, не ад Жырыноўскага, як не было і ніякага Мэцью... Я гэты ліст таксама зашлю ў КДБ і ў пракуратуру... Каб такое напісаць, трэба быць прафесіянальна вырадзіўшымся правакатарам, — гаварыў Сямён Шарэцкі.

Палітыка, гавораць, брудная справа. Бруднай яе робяць аўтары менавіта такіх лістоў. І не так важна, ці сапраўды гэтае пісьмо напісаў хваравіты пакарыцель паўднёвых акіянаў, ці хтосьці з яго не менш дзіўнага акружэння сфабрыкаваў такі ліст з мэтай умяшацца ў палітычны працэс на Беларусі. Магчыма, хтосьці і ў Беларусі паспрыяў з'яўленню такога ліста ад імя Вольфавіча. Пажадана, каб з гэтым усім разбіраліся не журналісты, а прадстаўнікі расійскай і беларускай пракуратур.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

### НОВІКАЎ ЗГОДНЫ НА НІЧЫЮ

**Віцэ-спікер беларускага парламента на сустрэчы з групай журналістаў заявіў, што ён і сілы, якія яго падтрымліваюць, згодны на «нулявы варыянт» у справе спрэчкі дзвюх галін улады адносна двух праектаў Канстытуцыі, якія вынесены на ўсенародны рэферэндум.**

— Адклікаем мы свой праект, адклікае свой праект Канстытуцыі Аляксандр Рыгоравіч, ствараем пагаджальную камісію, як прапаноўваюць прафсаюзы, знаходзім кампраміс і дзе-небудзь да вясны заканчваем справу з новай Канстытуцыяй, прымаем яе ў законным парадку, — заявіў Васіль Новікаў.

В.Новікаў, які з'яўляецца акрамя таго сакратаром ЦК ПКБ, вырашыў выйсці з такой прапановай пасля таго, як заручыўся падтрымкай на пленумах Магілёўскага і Віцебскага абкомаў партыі, якія амаль аднагалосна адобрылі пазіцыю і тактыку ЦК ПКБ і фракцыі камуністаў у Вярхоўным Савеце на чале з Новікавым і Калякіным. Было нават прынята рашэнне аб тым, што сыход дэпутата-камуніста з фракцыі ПКБ трэба лічыць здрадай партыі... Акрамя таго, узмацніўшы свае ўнутрыпартыйныя пазіцыі і адсунуўшы магчымую перспектыву расколу ПКБ, Васіль Новікаў спадзяецца яшчэ на пасрэдніцтва расійскіх палітыкаў, і ў прыватнасці лідэра КП РФ Генадзя Зюганава, які павінен прыехаць разам з іншымі парламентарыямі ў Мінск і сустрэцца з кіраўнікамі галін улады.

Магчыма, расіяне пераканаюць нашы процістаячыя бакі пайсці на кампраміс і не паўтараць іх памылак 1993 года.

— Намаганні павінны быць накіраваны на кампраміс. Місія Генадзя Андрэевіча Зюганава ў тым, каб знайсці гэты кампраміс.

Аднак у выпадку, калі Прэзідэнт усё ж не пагодзіцца на прапанаваную «нічыю» і назначыць свой рэферэндум на 7 лістапада, што Васіль Новікаў зусім не выключае, дык тыя людзі ў Вярхоўным Савеце, якія, паводле слоў Новікава, збіраюцца несці свой крыж да канца, возьмуць у рукі праекты Канстытуцый і законы і пойдуць з імі ў народ. Людзі не чыталі праектаў Канстытуцыі, ім трэба ўсё растлумачыць, лічыць Васіль Новікаў. Паралельна Вярхоўны Савет накіруе ў такім выпадку зварот у Канстытуцыйны суд з просьбай разабрацца адносна законнасці назначэння Прэзідэнтам такога рэферэндуму. Канстытуцыйны суд, відавочна, не прызнае гэта канстытуцыйным, і рэферэндум страціць пад сабой легітымную аснову, яго можна будзе байкатаваць.

Аднак Васіль Новікаў усё ж лічыць, што чым такі ход падзей — лепш нічыя: «Мы гатовы хоць сёння садзіцца за стол і шукаць паразумення. Бачыць Бог, што не мы былі зачыншчыкамі гэтай справы».

Ці знойдзе прапанова аб «нулявым варыянце» водгук, будзе вядома ў бліжэйшыя дні. Сітуацыя павінна праясніцца на сесіі Вярхоўнага Савета.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

### УХІЛ — НА ДЗЯРЖАЎНАЕ РЭГУЛЯВАННЕ...

Як паведамлялася ўжо, на мінулым тыдні на рэспубліканскай нарадзе быў прадстаўлены праект Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі да 2000 года. Варта нагадаць: да гэтага былі распрацаваны тры праекты рознымі групамі спецыялістаў — пры Савеце бяспекі, Нацыянальным банку, урадзе, а таксама адпаведныя накірункі развіцця рэспублікі, прапанаваныя Вярхоўным Саветам. На абмеркаванне ж быў вынесены праект так званай аб'яднанай праграмы, народжаны ў нетрах Адміністрацыі і ўрада.

Рэдакцыя атрымала першыя каментарыі на гэты праект. Але перш чым іх даць, варта ўдакладніць: праект складаецца з трынаццаці раздзелаў, у якіх даводзяцца асноўныя прынцыпы сацыяльна-эканамічнага ўладкавання рэспублікі на ўказаны перыяд, напрамкі эканамічнага развіцця.

А цяпер — каментарыі, якія далі старшыня Камісіі ВС па эканамічнай палітыцы і рэформах Васіль Шлындзікаў і адзін з нашых нештатных аўтараў — кандыдат эканамічных навук Мікалай Бабрыцкі.

*Васіль Шлындзікаў:* — Калі не прызнаць пэўных памылак, нельга зрабіць і правільных высноў. Працяглы эканамічны крызіс у рэспубліцы, як правіла, спісваюць на распад Саюза і разрыў сувязей. Ёсць доля праўды, ды толькі доля. Трэба цалкам прызнаць і віну ўладаў, як ранейшых, так і цяперашніх, за правалы ў эканамічнай палітыцы, найперш — за адсутнасць дакладнай эканамічнай стратэгіі, за таптанне на месцы і нерашучасць у рыначных пераўтварэннях. З адпаведнага пункту гледжання трэба ацэньваць і адзначаны аб'яднаны праект, да распрацоўкі якога, між іншым, ні нашу камісію, ні ВС не прыцягвалі.

Многія палажэнні праекта цалкам прымальныя, аднак няма ў ім агульнай цэльнасці, асобныя палажэнні супярэчаць адно аднаму (напрыклад, стрымліванне інфляцыі і павышэнне так званай манетарызацыі эканомікі, г. зн. напампоўванне яе яшчэ большымі аб'ёмамі грошай. Ці заявы аб развіцці экспартнага патэнцыялу і чыста адміністрацыйныя меры па стрымліванню курсу замежных валют, што скажае ўсю курсавую карціну і балюча б'е па тым жа экспарце). Набору мяркуемых рыначных мераў спадарожнічаюць пункты аб дзяржаўным умяшанні і кантролі, што ўжо загадзя выключае які-небудзь эфект ад гэтых мераў. Карацей, у праект закладзена ўсё тая ж бомба, якая ў свой час была закладзена ў Праграму неадкладных мераў.

Сярод параметраў і мэтаў зноў называюцца працэнты вытворчага росту (як правіла, не выконваемыя)... Ці так гэта важна? Нам патрэбна эфектыўная, цалкам скіраваная на патрэбы чалавека эканоміка. Ці лягчэй яму будзе ад таго, калі працэнтны рост зноў «асядзе» на складах? Галоўныя мэты і параметры належыць вызначаць зусім іншыя: не працэнты росту вытворчасці і каэфіцыенты манетарызацыі, а лічбы росту дабрабыту людзей, дабрабыту краіны.

Нават пасля самага беглага знаёмства з праектам праграмы можна сцвярджаць: калі дзейнічаць у адпаведнасці з ёй, нічога ў нас не зменіцца. Яшчэ раз падкрэслю: нельга маліцца і на рынак, і на дзяржаўна-адміністрацыйнае рэгуляванне адначасова. Што гэта з сабой нясе, мы ўжо добра бачым — і па цяперашнім стане эканомікі, і па цяперашнім жыцці людзей. Наша камісія ВС не застанецца ўбаку. Працягваючы ўжо пачатую работу, мы маем намер вынесці на разгляд закон аб эканамічнай палітыцы ў Рэспубліцы Беларусь. Калі мы ўжо заяўляем аб выбары як быццам ліберальнай мадэлі (г. зн. больш дэмакратычнай), дык давайце сапраўды па-дэмакратычнаму і будзем выбіраць найлепшыя варыянты, а не навязваць іх.

*Мікалай Бабрыцкі:* — У праекце заяўлена, што найбольш прымальнай для Беларусі з'яўляецца мадэль сацыяльна арыентаванай рыначнай дзяржавы. Такім чынам, у нас у чарговы раз аб'яўлены паход у рынак, прычым сказана і аб прыватызацыі, і аб іншых рыначных пераўтварэннях. Аднак гэтыя паняцці і словы ўжо гучалі раней ды, скажам так, не сталі фактам. Чаму? Варта ўсвядоміць: рыначныя адносіны найперш патрабуюць дэмакратычнага грамадства, свабоды выбару і свабоды эканамічнага самавызначэння. Гэтага не было раней, няма і цяпер. Хутчэй наадварот: мы маем яўна выражаны ўхіл да аўтарытарызму і ўладнага ўмяшання ва ўсе сферы эканомікі, да ўзмацнення рэгулявання і кантролю ў ёй.

Значыць, нельга разлічваць і на дасягненне аднаго з галоўных вынікаў — узмацнення матывацыі да працы, без якой, г. зн. без матывацыі, нельга чакаць і іншых станоўчых вынікаў. Спробы праз адміністрацыйную сістэму выстройваць рыначныя механізмы з тым, каб ужо праз гэтыя механізмы прымусіць некага ствараць даброты «на ўсіх», — загадзя асуджаны на правал.

У праекце з'явілася адносна новае паняцце «рэальная эканоміка». Зразумела, да яе аўтары адносяць чыста вытворчую сферу, вытворчую дзейнасць і, відавочна, выносяць за іх рамкі гандлёвы бізнес і пасрэдніцтва. Карацей, развіццю «рэальнай эканомікі» (не эканамічнаму развіццю ўвогуле) — асаблівая ўвага... Можна было б не звяртаць на гэты казус асаблівай увагі, ды вось закавыка: «рэальная» і, з дазволу, «нерэальная» эканоміка не могуць існаваць асобна адна ад адной. Хіба, відаць, толькі ў нас. Больш таго, ва ўсім цывілізаваным свеце менавіта «нерэальная» эканоміка дыктуе свае ўмовы. Больш-менш сур'ёзны чалавек, які пачынае сваю справу, не будзе гнаць прадукцыю наўздагад, пакуль не вывучыць становішча спраў менавіта ў «нерэальнай» эканоміцы, інакш гэта называюць маркетынгам. Менавіта праз «нерэальную» эканоміку, праз абмен найбольш дакладна вызначаюцца і тыя ці іншыя прыярытэты...

І яшчэ адна заўвага: на мой погляд, пры існуючых абставінах нерэальна ўжо ў будучым годзе даць 5 працэнтаў росту валавога ўнутранага прадукту, а значыць — і дабіцца паляпшэння дабрабыту людзей. Толькі з тым, каб захаваць аб'ём цяперашняга валавога прадукту ў будучым годзе, ужо сёлета на аднаўленне існуючых вытворчых магутнасцей трэба было б накіраваць не менш як 2 мільярды долараў.

Аднак сёння, па самых аптымальных ацэнках, усе валавыя інвестыцыі могуць скласці каля 1,2 мільярда долараў. Значна больш маштабныя інвестыцыі пры яўнай прыхільнасці да дзяржаўна-адміністрацыйнага рэгулявання эканомікі і не пойдуць у яе, гэта ўжо даказана існуючай практыкай. Яны не пойдуць добраахвотна і ў тым выпадку, калі аддача ад укладанняў капіталу ў вытворчасць будзе параней шаму заставацца нізкай, і тут ужо трэба гаварыць аб стварэнні адпаведных умоў. Такое вось замкнёнае кола, якое некалі ўсё роўна трэба будзе размыкаць. А галоўнае — уваходзіць у рынак не на словах, а на справе.

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

АБМЯРКОЎВАЕМ ПРАЕКТЫ КАНСТЫТУЦЫІ

## «У ВЫНІКУ ПРЫНЯЦЦЯ ПРАПАНАВАНАГА ПРЭЗІДЭНТАМ ПРАЕКТА КАНСТЫТУЦЫІ НАСТАНЕ ПЕРЫЯД ПРАВАВОЙ НЯПЭЎНАСЦІ»

**— лічыць дырэктар Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства, доктар юрыдычных навук Антон МАТУСЕВІЧ, з якім размаўляе карэспандэнт «Звязды»**

**— Антон Уладзіміравіч, ці лічыце вы, што ў дзеючай Канстытуцыі так шмат недахопаў, што трэба прымаць новую яе рэдакцыю?**

— Ведаеце, можна крытыкаваць асобныя палажэнні дзеючай Канстытуцыі, але правільней было б не крытыкаваць, а спрабаваць растлумачыць сэнс асобных палажэнняў Канстытуцыі ў суадносінах з іншымі нормамі. Ёсць два шляхі для пошуку адказу на такія пытанні: тлумачэнне саміх артыкулаў Канстытуцыі шляхам прыняцця адпаведных законаў або прыняцце заканадаўства ў развіццё Канстытуцыі. Я лічу, што варта было б ісці шляхам стварэння самастойных законаў, а тлумачэнні маглі б быць толькі прамежкавым этапам. Такіх пытанняў у Канстытуцыі 1994 года даволі шмат, хаця б артыкул 100, але ў цэлым Канстытуцыя дастаткова збалансаваная і таму агульная крытыка ў адносінах да гэтага дакумента мне здаецца недастаткова абгрунтаванай. Больш таго, прапанаваны праект па сутнасці не змяняе рэдакцыю, а з'яўляецца новай Канстытуцыяй, змяненні датычаць практычна ўсіх пытанняў, у тым ліку пытанняў уласнасці, арганізацыі ўлады. У чым мэтазгоднасць такіх змяненняў, я не магу сказаць, відавочна, што размова ідзе аб змяненні паўнамоцтваў, перадачы тых паўнамоцтваў, якімі валодае Вярхоўны Савет, у сферу выканаўчай улады. Прычым распрацоўшчыкі гэтага праекта выказваюцца за тое, каб ураўнаваць паўнамоцтвы галін улады. Гэта абсалютна няправільны заклік, паколькі кожны орган валодае адпаведнай кампетэнцыяй, і роўнасць гэтых органаў толькі ў тым, што яны роўныя ў плане агульнай абавязковасці прымаемых імі рашэнняў у рамках іх кампетэнцыі. Калі ж мы пойдзем па шляху «канкурыруючай» кампетэнцыі, то атрымаецца, што хто першы прыняў акт, той і мае рацыю? У такім выпадку разваліцца ўся наша прававая сістэма. Не можа ўказ Прэзідэнта мець сілу закона, павінна быць пэўная іерархія для актаў...

**— Ведаеце, у плане крытыкі дзеючай Канстытуцыі выкарыстоўваюцца матэрыялы заключэння нейкай Ганны Міленковай з Балгарыі, члена камісіі «Да дэмакратыі праз права» Савета Еўропы. Што гэта за дакумент?**

— Гэтыя дакументы ўпаміналіся нават у звароце Прэзідэнта да народа ў якасці аднаго з важных аргументаў за тое, што неабходны змяненні ў Канстытуцыі. Аднак на справе заключэння самой камісіі не было, няпраўда і тое, што гэта было прынята ў Страсбургу. Гэтая камісія знаходзіцца ў Венецыі (Італія). У гэтую камісію ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх краін — членаў Савета Еўропы, а таксама назіральнікі і асацыіраваныя члены. Беларусь з'яўляецца якраз асацыіраваным членам гэтай камісіі. І я, дарэчы, удзельнічаў у пасяджэнні гэтай камісіі. У той момант, калі ўзніклі шматлікія папрокі ў тым, што законы аб Прэзідэнце і Вярхоўным Савеце не адпавядаюць Канстытуцыі, тагачасны Старшыня Вярхоўнага Савета Мечаслаў Грыб абмяркоўваў пытанне магчымай экспертызы гэтых дакументаў за мяжой. Гэтыя законы былі перакладзены на французскую і англійскую мовы супрацоўнікамі нашага інстытута і перавезены мною ў названую камісію Савета Еўропы. Экспертыза была даручана двум экспертам: Ганне Міленковай, члену Нацыянальнага сходу Балгарыі, і Кейстутасу Лапінскасу, члену Канстытуцыйнага суда Літвы. Яны разгледзелі гэтыя законы і далі свае заключэнні на прадмет адпаведнасці нашых законаў аб Прэзідэнце і Вярхоўным Савеце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. У нейкіх момантах гэтыя заключэнні супадалі паміж сабой, у нейкіх — не, але ў цэлым ацэнка Канстытуцыі ў іх не давалася. Хацеў бы адзначыць, што ў прынцыпе складана абапірацца на гэтыя заключэнні, бо экспертам невядома была ўся наша прававая сістэма, яны вырашалі маленькае прыватнае пытанне. У той час увогуле стаяла пытанне аб правамернасці прыняцця закона аб Вярхоўным Савеце. Абодва эксперты ў цэлым станоўча ацанілі гэтыя законы і, у прыватнасці, тая ж Ганна Міленкова заключыла, што гэтыя законы з'яўляюцца канстытуцыйнымі, за выключэннем асобных пытанняў, якія пазней узніклі пры разглядзе гэтых законаў у Канстытуцыйным судзе. Ва ўсіх выпадках рабіць спасылку на заключэнні двух асобных экспертаў пры абгрунтаванні неабходнасці змянення Канстытуцыі некарэктна. Калі Старшыня Вярхоўнага Савета звяртаўся за падобнай экспертызай, то падразумявалася, што ўсякая думка аб якасці законаў карысная: калі будуць выяўлены недахопы, іх можна выправіць.

**— Скажыце, калі ласка, але гаварылася, што гэтыя заключэнні былі схаваны ад грамадскасці.**

— Не, справа ў тым, што грамадскасць да гэтага проста не мела ніякіх адносінаў, гэта быў рабочы дакумент, які потым паступіў у Канстытуцыйны суд у момант разгляду гэтых законаў. З другога боку, мне не зразумела, чаму дакументы, якія з'яўляюцца матэрыяламі падчас разгляду справы ў Канстытуцыйным судзе, без нашага ўдзелу «выплываюць», прычым з зусім неадэкватнай інтэрпрэтацыяй.

**— Скажыце, калі ласка, гэтыя заўвагі Міленковай і Лапінскаса былі ўлічаны ў Канстытуцыйным судзе?**

— Яны былі разгледжаны і далёка не ўсе былі ўлічаны, яны ўспрымаліся як прыватныя меркаванні экспертаў. Разам з тым я хачу сказаць, што дзеючая Канстытуцыя праходзіла міжнародную экспертызу і атрымала высокую ацэнку.

**— У сувязі з пытаннем аб новым праекце Канстытуцыі, вынесеным Прэзідэнтам А. Лукашэнкам на рэферэндум, узнікае складаная юрыдычная праблема: што гэта, новы варыянт Канстытуцыі, ці дапаўненні і змяненні?**

— Сапраўды, стаіць такое пытанне. Апублікаваны дакумент называецца «Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь (са змяненнямі і дапаўненнямі)». Я мяркую, мы павінны так разумець, што гэта новая Канстытуцыя. Тут узнікае таксама пытанне аб мэтазгоднасці правядзення па гэтай праблеме рэферэндуму ўвогуле. Рэферэндум мае свае плюсы і мінусы. Ён прадугледжвае вялікія арганізацыйныя і матэрыяльна-тэхнічныя затраты. Па-другое, такі вялікі дакумент выносіцца на рэферэндум, пры гэтым не зразумела, калі выбаршчык не згодны з нейкім адным артыкулам праекта, як ён павінен галасаваць: «за» ці «супраць»? Акрамя таго, грамадзяніну вельмі складана разабрацца ў тых змяненнях без параўнання старога тэксту з новым. А прапаноўваецца фактычна карыкатурная роля новага Нацыянальнага сходу, напрыклад, устанаўліваецца тэрмін працягласці сесій: з 2 красавіка не больш чым 80 дзён, а другая сесія — не больш як 90 дзён. Практычна на працягу сямі месяцаў не будзе дзейнічаць заканадаўчы орган. Ведаеце, рэферэндум, вядома, карысная справа, але ён мог бы праводзіцца па нейкіх глабальных пытаннях, па пытаннях уласнасці, напрыклад. Я хутчэй перанёс бы акцэнты правядзення рэферэндуму на мясцовы ўзровень, туды, дзе вырашаюцца канкрэтныя пытанні: дапусцім, калі ў бюджэтным фінансаванні ёсць пэўная сума, то на што яе лепш патраціць: на дарогу, магазін ці школу... Калі ж мы гаворым аб іншых пытаннях, то адназначнага адказу чакаць вельмі складана. Дзеючая Канстытуцыя прадугледжвае, што рашэнне аб зменах у Канстытуцыі з'яўляецца прынятым, калі за яго прагаласавала большасць грамадзян, унесеных у выбарчыя спісы.

**— Ці заўважылі вы што-небудзь новае і прагрэсіўнае ў прапанаваным Прэзідэнтам праекце Канстытуцыі?**

— Ведаеце, калі падыходзіць да справы абстрактна, то можна абмяркоўваць і такі праект, і нейкі іншы, але ж яшчэ трэба ўлічваць і рэаліі, таму што нельга безадносна да існуючых праваадносін прымаць зусім новыя. Прапанаваны праект пацягне за сабой, як мінімум, змяненне ўсёй заканадаўчай базы рэспублікі, адкіне яе не толькі ў 90-91-ы год, а нават далей. Трэба будзе рабіць усё заканадаўства з нуля, адкінуць амаль усё тое, што было напрацавана за перыяд дзейнасці Вярхоўнага Савета 12-13 скліканняў. Немагчыма не ўлічваць, што змена значнай часткі не можа не змяняць усё. Мне здаецца, што гэта прынясе вялікую шкоду. У існуючай сітуацыі можна мяняць законы. У Прэзідэнта ёсць права заканадаўчай ініцыятывы. Калі ласка, распрацоўвайце законы і прапануйце змену адносінаў, а Вярхоўны Савет з'яўляецца пастаянна дзеючым органам і можа іх разгледзець. Аднак не так ужо шмат ад Прэзідэнта паступала законапраектаў. Ёсць і іншыя пытанні да прапанаванага праекта Канстытуцыі: у чым сэнс двухпалатнай сістэмы парламента, ці ліквідуе яна магчымасць канфлікту паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі? Не, Прэзідэнт можа вяртаць законы як у аднапалатны, так і ў двухпалатны парламент. Ці дае гэта магчымасць больш старанная прапрацоўкі законапраектаў? Але гэта залежыць ад працэдуры разгляду законапраектаў, ад таго як пастаўлена дзейнасць у Вярхоўным Савеце. Цяпер практычна гатовы рэгламент Вярхоўнага Савета, у якім прадугледжаны многія аспекты працэдуры для больш дакладнай падрыхтоўкі праектаў законаў. Далей шырокія паўнамоцтвы, паводле гэтага праекта, пераходзяць ад Вярхоўнага Савета да Прэзідэнта, з'яўляецца новы тып нарматворчых актаў Прэзідэнта — дэкрэты. Цяпер гавораць, што ўсе прапановы пры абмеркаванні гэтага праекта Канстытуцыі будуць улічаны, аднак невядома, калі будзе, урэшце, апублікавана яшчэ адна новая версія Канстытуцыі і ў якой ступені будзе зменены праект? Гавораць, што праект Канстытуцыі абмяркуе Усебеларускі кангрэс. Але што гэта за орган, з якімі паўнамоцтвамі: гэта «круглы стол» ці канферэнцыя. Адназначна, што такі орган не можа прымаць нейкія рашэнні з юрыдычнымі наступствамі. З другога боку гаворыцца, што гэта Канстытуцыя пераходнага перыяду, але ж ніякага пераходнага перыяду ў прынцыпе не існуе. Бо заўсёды адбываюцца змены ў грамадстве.

**— Ведаеце, гавораць, што прапануемая новая рэдакцыя Канстытуцыі распрацоўвалася і прымалася келейна, а вы знаёмы з аўтарамі праекта Канстытуцыі, прапанаванага Прэзідэнтам?**

— Я ўпэўнены, што я ведаю гэтых людзей, але не магу сказаць, хто канкрэтна, бо афіцыйна іх прозвішчы не называліся, у адрозненне ад распрацоўшчыкаў дзеючай Канстытуцыі. Я не ведаю, як было гэта арганізавана, хто напісаў гэтую Канстытуцыю, аднак мяркуючы па тым, што яе праект унёс Прэзідэнт, значыць ён магчыма, з'яўляецца яе аўтарам, прынамсі, натхняльнікам яе асноўнай накіраванасці.

**— І ўсё ж скажыце, калі ласка, калі будзе прыняты прапанаваны праект Канстытуцыі, якім чынам будуць дзейнічаць існуючыя законы аб Вярхоўным Савеце, аб міліцыі, пракуратуры і шмат іншых?**

— Яны будуць дзейнічаць у частцы, у якой яны не пярэчаць Канстытуцыі, але гэтую частку фактычна немагчыма вызначыць. У прыватнасці, у праекце з'явілася прабелы, якіх няма ў дзеючай Канстытуцыі. Раней указвалася, хто назначае суддзяў, а цяпер — не... Ну а як, скажыце, можа дзейнічаць закон аб Вярхоўным Савеце, калі не будзе Вярхоўнага Савета ў прынцыпе? Ведаеце, настане перыяд прававой няпэўнасці пасля прыняцця такой Канстытуцыі, ніхто не будзе ведаць, якімі нарматыўнымі актамі кіравацца... У прапанаваным праекце фактычна ліквідуецца іерархія нарматыўных актаў: калі дэкрэт Прэзідэнта будзе мець сілу закона — значыць не будзе падзелу ўладаў. Магчыма, сэнс гэтых перамен у тым, каб сканцэнтраваць уладу ў руках адной дзяржаўнай асобы — Прэзідэнта. Я неяк вывучаў праект Канстытуцыі, напісаны дзекабрыстам Мікітам Мураўёвым. Тыя паўнамоцтвы, якія ён прадастаўляў цару, значна саступаюць паўнамоцтвам нашага Прэзідэнта паводле дзеючай Канстытуцыі. Кампетэнцыя Прэзідэнта ЗША значна меншая, чым нашага...

**— Антон Уладзіміравіч, скажыце, ваш інстытут і Вярхоўны Савет могуць нейкім чынам выказаць сваю афіцыйную думку, свае прапановы, заключэнні па прапанаванаму варыянту Канстытуцыі?**

— Заклік аб тым, што трэба ўносіць прапановы, прагучаў. Зразумела, мы працуем зараз над гэтым, супрацоўнікі інстытута атрымалі адпаведныя даручэнні па пэўнай схеме вывучыць вартасці і недахопы гэтага праекта, па адносінах да мэты прапанаваных змен і ў суадносінах з дзеючай Канстытуцыяй, з улікам гістарычных традыцый і г.д. Такое заключэнне мы будзем рыхтаваць, і я думаю, што яно, магчыма, неяк паўплывае на змест прапанаванай Канстытуцыі. Іншая справа, што пытанне ставіцца ў двух аспектах. Па-першае, ці патрэбна гэта рабіць, і па-другое, калі рабіць, то што. Я ў цэлым не бачу сэнсу ў прапаноўваемай двухпалатнай сістэме, мне здаецца, што гэта надуманая схема, а перадача ўсіх паўнамоцтваў у сферу выканаўчай улады, якая нават паводле сваёй назвы павінна выконваць, а не ствараць новыя нормы на вышэйшым заканадаўчым узроўні, мне здаецца недастакова лагічнай.

**— А які можа быць механізм уліку вашай думкі?**

— Я мяркую, што перш чым друкаваць гэты праект, трэба яго абмеркаваць, як мінімум па парытэтных пачатках стварыць спецыяльную Канстытуцыйную камісію, прадстаўнікам усіх галін улады абмеркаваць схему, прынцыповыя палажэнні, магчыма, стварыць пагаджальную камісію... На сёння ж ініцыятыва належыць цалкам Прэзідэнту, і механізм уплыву не адпрацаваны. Больш таго, тут ёсць пэўная псіхалагічная пастка: Прэзідэнт прапануе рэферэндум, Вярхоўны Савет назначае дату — як павінен успрымаць гэта звычайны грамадзянін? Атрымліваецца, што як быццам усе галіны ўлады заведама згодны. Магчыма, Вярхоўны Савет павінен правесці слуханні па гэтаму праекту і публічна выказаць сваё меркаванне, сваё заключэнне, высновы. Аналагічная работа магла б быць праведзена на ўзроўні мясцовых Саветаў.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## «ПРЭЗІДЭНТАМ ПРАПАНАВАНА КАНСТЫТУЦЫЙНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ»,

***— лічыць намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, доктар юрыдычных навук Аляксандр АБРАМОВІЧ, з якім размаўляе журналіст «Звязды». Размова прысвечана двум прапанаваным праектам Канстытуцыі, за якія грамадзяне павінны выказацца на ўсенародным рэферэндуме, прызначаным Вярхоўным Саветам на 24 лістапада гэтага года.***

**— Аляксандр Міхайлавіч, які быў ваш удзел у распрацоўцы прапанаванага А. Лукашэнкам праекта Канстытуцыі?**

— Удзел быў самы актыўны, хаця працавала над ім асобная спецыяльная рабочая група. У саставе гэтай групы былі кваліфікаваныя юрысты, у прыватнасці дактары навук, спецыялісты ў галіне канстытуцыйнага, дзяржаўнага права і дзяржаўнага кіравання... Ну, а мне цяпер даручана ўзначальваць камісію па дапрацоўцы праекта Канстытуцыі на аснове атрыманых заўваг і прапаноў. Ёсць шэраг палажэнняў, якія, як я лічу, можна дапрацаваць і зрабіць больш дэмакратычнымі, змястоўнымі. Тут мы мяркуем яшчэ больш шырока прыцягнуць юрыстаў, спецыялістаў у асобных галінах права, прадстаўнікоў самых розных галін улады — заканадаўчай, выканаўчай, судовай, а таксама грамадскасці.

**— У чым вы бачыце недахопы дзеючай Канстытуцыі 1994 года, якія прымушаюць прымаць не асобныя папраўкі, а новы яе варыянт?**

— Асноўны недахоп дзеючай Канстытуцыі, якая сапраўды зрабіла вялікі крок у накірунку дэмакратызацыі грамадства, рэалізацыі важнейшых прынцыпаў дзяржаўнага будаўніцтва, прынцыпу падзелу ўладаў,— у тым, што яна з'яўляецца не проста палавінчатай, што яна ў цэлым грунтавалася на савецкім прынцыпе арганізацыі ўлады, у які была ўманціравана зусім новая фігура прэзідэнта як кіраўніка дзяржавы і кіраўніка выканаўчай улады. Гэта не магло не адбіцца на ўсім наступным ходзе вырашэння дзяржаўных праблем. Паранейшаму Вярхоўны Савет застаецца тым звяном, якое з'яўляецца ключавым у сістэме дзяржаўнай улады, любое пытанне ён можа вырашыць у форме закона, а потым кантраляваць яго выкананне. Нідзе ў Еўропе такога няма... Ведаеце, практычна ўсё тое, што прапанавана Прэзідэнтам, было ўжо апрабавана ў заходніх дзяржавах, за невялікім выключэннем, вядома...

**— Але ёсць жа і нейкія свае традыцыі, ёсць існуючыя праваадносіны. Аднак Прэзідэнтам прапаноўваецца настолькі новы варыянт Канстытуцыі, як быццам трэба пачынаць з нуля. Прапануецца, па сутнасці, рэвалюцыя ў дзяржаўным будаўніцтве...**

— Вы правільна кажаце, тое, што адбылося і адбываецца ў нас,— гэта істотная кардынальная змена канстытуцыйных палажэнняў, Прэзідэнтам прапанавана па сутнасці канстытуцыйная рэвалюцыя. Так, гэта рэвалюцыя, бо накіравана на прагрэсіўнае развіццё падзей, на ўкараненне мадэляў, што ўжо праверылі сябе ў дзяржавах сталага дэмакратычнага развіцця. У нас даўно ўжо пачалася і цяпер працягваецца, па сутнасці, змена грамадска-палітычнага ладу, і прававая сістэма фарміруецца калі не зусім з нуля, то з вельмі невялікага «задзелу», у тым ліку і ў галіне рыначных адносін, дзе давялося распрацоўваць прынцыпова новыя палажэнні адносна права ўласнасці, гарантый яго абароны, адносін куплі-продажу і інш. Гэта ж асноўныя пытанні, і іх трэба вырашаць. Што датычыць палітычнага ўладкавання, то тут таксама ствараецца зусім новая сістэма. Тая сістэма была заснавана раней на манаўладзе, а трэба — на рэальным падзеле ўладаў. Калі мы гэта абвясцілі, дык павінны сапраўды ўсё далей юрыдычна забяспечыць. Адсюль дакладнае вызначэнне ў праекце змяненняў у Канстытуцыю паўнамоцтваў парламента, прэзідэнта, выканаўчай улады. У праекце гэтых змен ужо не ўжываецца ранейшая формула адносна кампетэнцыі:«вырашае і іншыя пытанні». Гэта давала магчымасць той ці іншай галіне ўлады вырашаць усё. Ні парламент, ні прэзідэнт сваімі актамі не можа цяпер, паводле прапанаванага праекта, расшырыць свае паўнамоцтвы.

Жыццё так уладкавана, што кожная ўлада як пэўны сацыяльны арганізм імкнецца расшырыць свае паўнамоцтвы, гэта аб'ектыўны закон. Так бывае і ў іншых краінах, але ў разумна арганізаваных дзяржаўных сістэмах прадугледжваюцца механізмы, якія дзейнічаюць як стрымліваючыя, не толькі паміж уладамі, але і ўнутры саміх уладаў. На мой погляд, такія механізмы патрэбны і заканадаўчай, і выканаўчай уладзе.

Такім стрымліваючым механізмам для заканадаўчай улады з'яўляецца двухпалатная сістэма. З аднаго боку, існуе спецыяльны прафесіянальны орган, які працуе ў галіне заканатворчасці, — гэта палата дэпутатаў або прадстаўнікоў; другая палата выконвае экспертна-кантрольныя функцыі, але не рашаючыя, на нейкі момант яна можа прытармазіць рух недаспелых, скажам так, законаў. Другая палата магла б таксама вырашаць пытанні, звязаныя з назначэннем вышэйшых службовых асоб дзяржавы ў межах кампетэнцыі парламента. Гэта сенат. Ён адлюстроўвае пераважна не палітычныя, а рэгіянальныя інтарэсы. Але ў выніку палата прадстаўнікоў можа свой, дапусцім, закон, нават калі сенат яго адхіляе, рухаць іншым канстытуцыйным шляхам.

**— А які стрымліваючы механізм унутры выканаўчай улады?**

— У сістэме выканаўчай улады такім механізмам з'яўляецца наяўнасць магутнага выканаўча-распарадчага органа — Кабінета Міністраў. З кішэннага Кабінета Міністраў ён ператвараецца ў самастойны орган, атрымлівае права ўносіць праекты законаў непасрэдна ў парламент, мінуючы прэзідэнта. Ён становіцца не толькі падкантрольным прэзідэнту, але і падсправаздачным парламенту. Кабінету Міністраў парламентам можа выказвацца недавер. У пэўных сітуацыях Кабінет Міністраў і прэм'ер становяцца стрымліваючымі фігурамі ў рамках сістэмы выканаўчай улады. У прыватнасці, толькі адзін праект (закона аб бюджэце) яны абавязаны накіроўваць праз прэзідэнта. Прэзідэнт жа застаецца кіраўніком дзяржавы. Гавораць, што ў яго расшыраюцца паўнамоцтвы. Улічваючы, што ў яго фактычна адпадаюць паўнамоцтвы кіраўніка выканаўчай улады, правільней было б гаварыць аб змяненні арыентаванасці яго паўнамоцтваў менавіта на паўнамоцтвы кіраўніка (па-руску «главы») дзяржавы. Кажуць, што прэзідэнт атрымлівае неабмежаванае права распускаць парламент. Нічога падобнага. Ён можа рабіць гэта толькі ў трох выпадках: калі палата прадстаўнікоў двойчы адхіліць кандыдатуру прэм'ер-міністра, калі дэпутаты выказваюць вотум недаверу ці адмаўляюць ураду ў даверы і за грубае і сістэматычнае парушэнне Канстытуцыі, аднак толькі паводле заключэння Канстытуцыйнага суда. Апошняе заснавана на выніках мінулагодняга рэферэндуму.

**— А вось калі Прэзідэнт груба парушыць Канстытуцыю?**

— Грубае парушэнне Канстытуцыі як падстава для адхілення прэзідэнта ад пасады не прадугледжана ў іншых краінах і на рэферэндум гэтае пытанне не выносілася, хаця тут ёсць пытанне адэкватнасці. Але як бы мы з вамі тут ні гаварылі — за гэта выказаўся наш народ на мінулым рэферэндуме.

Далей, у праекце, прапанаваным прэзідэнтам, удакладняецца працэдура ўзаемаадносінаў паміж прэзідэнтам і парламентам у галіне заканатворчасці. Тут таксама няма нічога новага ў параўнанні з сусветным вопытам. Гэта ўсё тыповая заходняя практыка, усё гэта тое, што павінна было б даўно быць запісана ў нас. Паглядзіце, накіроўвае прэзідэнт у парламент той ці іншы законапраект, дык вывучайце яго, абгрунтуйце, дайце адказ або прыміце. Але ж нельга, каб законапраект прэзідэнта паклалі пад сукно і не разглядалі, як гэта часам мае месца цяпер...

**— Аляксандр Міхайлавіч, тым не менш, частка нашага грамадства гаворыць аб адваротным — не аб звужэнні, а аб расшырэнні паўнамоцтваў прэзідэнта паводле ягонага праекта Канстытуцыі ва ўрон Вярхоўнаму Савету, мясцоваму самакіраванню: ён атрымлівае права, напрыклад, выдаваць дэкрэты, роўныя па сіле законам, і г.д.**

— Гэта агульныя словы, якія ў прынцыпе ні на чым не грунтуюцца. Што датычыць дэкрэтаў, дык вы паглядзіце, напрыклад, 86-ы артыкул Канстытуцыі Іспаніі. Там прадугледжана, што нават урад можа ў адпаведных выпадках выдаваць нарматыўныя акты, якія маюць характар заканадаўчых. Канстытуцыі шэрага краін такое прадугледжваюць для іх прэзідэнтаў. Іншая справа, што такія акты павінны дзейнічаць нейкі ўстаноўлены законам тэрмін, пакуль па іх не прыме рашэнне парламент. Так і ў нас — пакуль парламент не адменіць іх, а гэта ён можа зрабіць у любы момант, калі будзе нязгодны з прэзідэнтам. Глядзіце самі: аналагічна замежнай практыцы, паводле прапанаванага прэзідэнтам праекта Канстытуцыі, парламент мае дзве сесіі: летнюю — на 90 дзён і зімовую — на 80 дзён. У перыяд паміж сесіямі хтосьці павінен вырашаць неадкладныя пытанні заканадаўчага характару...

**— А як быць з прапановай назначаць частку сенатараў прэзідэнтам?**

— Па пытанню назначэння прэзідэнтам часткі сената не толькі ў мяне, але і ў рабочай групы ёсць думка, што тут можа быць больш прымальным італьянскі вопыт, дзе назначаецца меншая колькасць сенатараў.

Гэта як бы прадстаўнікі прэзідэнта там. Думаю, што па гэтаму пытанню яшчэ трэба дадатковае абмеркаванне і ўлік заўваг, хаця канчатковае рашэнне, які праект выносіць, належыць прэзідэнту. Што ж датычыцца іншых назначэнняў, то паглядзіце, кіраўнік урада назначаецца са згоды палаты прадстаўнікоў, старшыня і члены Вярхоўнага суда — са згоды сената, старшыня і члены праўлення Нацыянальнага банка, Генеральны пракурор — са згоды сената. Магчыма, гэтае кола асоб можна было б і пашырыць.

**— Вы ўпамянулі тэрміны сесій парламента. У гэтым вашы апаненты бачаць абмежаванне дзейнасці парламента, які месяцамі не будзе працаваць...**

— Там прадугледжваецца магчымасць склікання нечарговых сесій. А з другога боку, такая сусветная практыка — вызначаць дакладна ў канстытуцыях гэты тэрмін.

**— Скажыце, а ці ёсць у заходніх канстытуцыях раздзелы, падобныя на апошні раздзел прэзідэнцкага праекта, які прадугледжвае працяг паўнамоцтваў цяперашняга кіраўніка дзяржавы яшчэ на 2 гады і 4 месяцы без выбараў?**

— Я думаю, што па заключных палажэннях будзе яшчэ праводзіцца дапрацоўка, тут магчымы істотныя змяненні, і я хацеў бы, каб па некаторых момантах яны былі істотнымі. Напрыклад, сярод маіх калег існуе меркаванне, якога і я прытрымліваюся, што трэба даць больш узважаную рэдакцыю артыкула 143 прапанаванага прэзідэнтам праекта, з тым, каб было ясна, што менавіта дэпутаты дзеючага Вярхоўнага Савета сфарміруюць з свайго саставу новы парламент, калі, зразумела, праект будзе падтрыманы на рэферэндуме, ды і дэпутатамі. Няўжо ж нам трэба будзе пасля рэферэндуму праводзіць новыя выбары? Гэта было б не самым лепшым рашэннем.

**— А як вы ацэньваеце альтэрнатыўны праект, прапанаваны фракцыямі камуністаў і аграрыяў?**

— Праект Канстытуцыі, які вынеслі камуністы і аграрыі,—унікальны, у свеце такіх няма. Гэта сапраўды камуністычны праект, які па-ранейшаму прадугледжвае ўсю паўнату ўлады Вярхоўнага Савета... Гэта Канстытуцыя не дэмакратычнай дзяржавы, гэта Канстытуцыя, якая будзе заснавана на манапалізацыі ўлады адной яе галіной... Яны ж узялі старую савецкую Канстытуцыю і прапаноўваюць усё ранейшае: Вярхоўны Савет кіруе ўсім, выбірае падсправаздачны яму Савет Міністраў, які з'яўляецца выканаўчым органам, і г.д. Мне дзіўна, што яго падтрымалі прадстаўнікі процілеглых палітычных плыняў.

**— Прапануючы працэдуру прыняцця Канстытуцыі на рэферэндуме, часта спасылаюцца на вопыт Расіі, але ж вы памятаеце, як гэта там адбывалася пасля расстрэлу Вярхоўнага Савета РФ? І ці такая ўжо ідэальная расійская Канстытуцыя?**

— Сапраўды, прыклад не зусім удалы, бо ў нас зусім іншыя ўмовы, у нас нічога гэтага няма, у нас ідзе спакойнае абмеркаванне, і я не раблю трагедыі з таго, што выносіцца альтэрнатыўны варыянт Канстытуцыі. Ёсць працэс палітычнага процістаяння, але ўся справа ў тым, каб яно не набывала вострых формаў. Народу, мяркую, гэта непатрэбна.

**— Тым не менш, у адносінах да працэдуры прыняцця Канстытуцыі праз рэферэндум ёсць шмат прэтэнзій. Скажыце, напрыклад, а калі чалавек згодзен з праектам прэзідэнта ці камуністаў з аграрыямі, але адзін пункт яму не падабаецца, як ён павінен галасаваць?**

— Так, прыняцце законапраектаў на рэферэндуме мае як станоўчыя, так і адмоўныя рысы. Названае вамі адносіцца да недахопаў. Станоўчым жа з'яўляецца тое, што на ўсеагульнае галасаванне выносіцца бачанне гэтага пытання пэўным лідэрам ці групай людзей адпаведных палітычных сіл. Яно, атрымаўшы падтрымку, хутка ўвасабляецца ў жыццё...

Карыстаючыся нагодай, я заклікаю вашых чытачоў прыняць шырокі ўдзел у абмеркаванні праекта Канстытуцыі, прапанаванага кіраўніком дзяржавы.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## АФІЦЫЙНА

### ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
### АБ ПАРАДКУ ДНЯ ДРУГОЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ТРЫНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ І ГРАФІКУ ЯЕ РАБОТЫ НА ПЕРШЫ ТЫДЗЕНЬ ВЕРАСНЯ 1996 ГОДА

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Зацвердзіць парадак дня другой сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання (прыкладаецца).

2. Зацвердзіць графік работы другой сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання на першы тыдзень верасня 1996 года.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

2 верасня 1996 года, г. Мінск. № 550-XIII

***Дадатак №1***

### ПАРАДАК ДНЯ ДРУГОЙ СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ТРЫНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

1. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню».

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству, па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

2. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб іміграцыі» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах*

3. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб парадку адклікання дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і дэпутата мясцовага Савета дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

4. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове атмасфернага паветра» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па экалогіі і прыродакарыстанню*

5. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове і выкарыстанні жывёльнага свету» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па экалогіі і прыродакарыстанню*

6. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб нарматыўна-прававых актах Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству*

7. Аб праекце Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству*

8. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб музеях і Музейным фондзе Рэспублікі Беларусь» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры*

9. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб распаўсюджванні дзеяння некаторых артыкулаў Закона Рэспублікі Беларусь «Аб міліцыі» на работнікаў дзяржаўнай фельд'егерскай службы пры Міністэрстве сувязі і інфарматыкі» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

10. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб тлумачэнні асобных артыкулаў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь».

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству*

11. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйным наглядзе за асобамі, вызваленымі з месцаў пазбаўлення волі» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

12. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб спрошчанай сістэме падаткаабкладання, уліку і справаздачнасці для суб'ектаў малога прадпрымальніцтва» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

13. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб банкруцтве» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

14. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб санацыі» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

15. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб кіраўніку ў працэдуры банкруцтва» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

16. Аб праекце Правіл этыкі дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы*

17. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб камісіях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

18. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб інфармацыі Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб выкананні рэспубліканскага бюджэту за першае паўгоддзе 1996 года».

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

19. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб выніках работы Часовай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню падзей, якія мелі месца падчас і пасля 26 красавіка і 30 мая 1996 года ў г.Мінску».

*Часовая камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню падзей, якія мелі месца падчас і пасля 26 красавіка і 30 мая 1996 года ў г.Мінску*

20. Справаздачы Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Капітана В.С., Міністра ўнутраных спраў Агальца В.С., Старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь Мацкевіча У.А. аб выніках праведзеных службовых расследаванняў і прынятых мерах па забеспячэнню выканання заканадаўства ў рабоце праваахоўных органаў.

*Часовая камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па расследаванню факта затрымання праваахоўнымі органамі дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Знаўца П.К.*

21. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

22. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб інфармацыі Старшыні Праўлення нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Віннікавай Т.Д. аб ходзе рэалізацыі «Асноўных напрамкаў грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь на 1996 год».

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

23. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб натарыяце» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству*

24. Праект Паветранага кодэкса Рэспублікі Беларусь (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці, транспарту, будаўніцтву, энергетыцы, гандлю і іншых паслугах насельніцтву, сувязі і інфарматыцы*

25. Праект Жыллёвага кодэкса Рэспублікі Беларусь (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці, транспарту, будаўніцтву, энергетыцы, гандлю і іншых паслугах насельніцтву, сувязі і інфарматыцы*

26. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб творчых саюзах» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, навуцы і культуры*

27. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб насенні» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях і сацыяльнаму развіццю сяла*

28. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб спрошчанай сістэме падаткаабкладання, уліку і справаздачнасці для суб'ектаў малога прадпрымальніцтва» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

29. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб стварэнні новых рабочых месцаў і падтрымцы вытворча-гаспадарчай актыўнасці насельніцтва» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

30. Аб праекце Рэгламенту Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы*

31. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Палажэнне аб Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы».

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы*

32. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб праве грамадзян Рэспублікі Беларусь на свабоду перамяшчэння і выбар месца жыхарства ў межах Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі*

33. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб дзяржаўнай статыстыцы» (першае чытанне).

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

34. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абавязковым страхаванні грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў аўтатранспартных сродкаў» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

35. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб тэлебачанні і радыёвяшчанні» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі*

36. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пакрыцці страт ад абясцэнення ўкладаў» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

37. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб лекавым забеспячэнні насельніцтва Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту*

38. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб судовых прыставах і судовых выканаўцах» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству*

39. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мерах барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

40. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адаптацыі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь да рыначных умоў» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па аграрных пытаннях і сацыяльнаму развіццю сяла*

41. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб радыяцыйнай бяспецы» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы*

42. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ацэначнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

43. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прадпрыемствах, якія не маюць на мэце атрыманне прыбытку» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

44. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб рэкламе» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

45. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным уладкаванні Рэспублікі Беларусь» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

46. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1997 год».

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

47. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні справаздачы аб выкананні рэспубліканскага бюджэту за 1995 год».

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

48. Праект Ляснога кодэкса Рэспублікі Беларусь (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па экалогіі і прыродакарыстанню*

49. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прававым статусе і сацыяльнай абароне інвалідаў вайны ў Рэспубліцы Беларусь»(першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах ветэранаў і інвалідаў*

50. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб турызме» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па ахове здароўя, фізічнай культуры і спорту*

51. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні меж нацыянальнага парку «Браслаўскія азёры».

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па экалогіі і прыродакарыстанню*

52. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове атмасфернага паветра» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па экалогіі і прыродакарыстанню*

53. Праект Крымінальна-выканаўчага кодэкса Рэспублікі Беларусь (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству*

54. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асновах транспартнай дзейнасці» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прамысловасці, транспарту, будаўніцтву, энергетыцы, гандлю і іншых паслугах насельніцтву, сувязі і інфарматыцы*

55. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб нядобрасумленнай канкурэнцыі» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

56. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб гуманітарнай дапамозе» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па праблемах чарнобыльскай катастрофы*

57. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб статусе сталіцы Рэспублікі Беларусь» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

58. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб свабодных эканамічных зонах» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах*

59. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Упаўнаважаным па правах чалавека ў Рэспубліцы Беларусь» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі*

60. Праект Падатковага кодэкса Рэспублікі Беларусь (першае чытанне).

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

61. Праект Банкаўскага кодэкса Рэспублікі Беларусь (першае чытанне).

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

62. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб аплаце працы ў вышэйшых дзяржаўных органах» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

63. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб парадку складання, разгляду, зацвярджэння бюджэту Рэспублікі Беларусь і кантролю за выкананнем рэспубліканскага бюджэту».

*Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь*

64. Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь.

65. Законы Рэспублікі Беларусь, не падпісаныя і вернутыя Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

66. Кадравыя пытанні.

67. Аб ратыфікацыі міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь.

68. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб знешнеэканамічнай дзейнасці».

*Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь*

69. Аб ходзе выканання законаў Рэспублікі Беларусь у частцы прадастаўлення сацыяльных ільгот і прывілей інвалідам, ветэранам, чарнобыльцам і некаторым іншым катэгорыям грамадзян.

*Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

70. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выкананні абавязацельстваў па дзяржаўнай мэтавай беспрацэнтнай пазыцы 1990 года» (першае чытанне).

*Цярэшчанка В.І., дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

71. Інфармацыя Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь аб выніках праверкі вытворча-фінансавай дзейнасці Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

*Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

72. Праект Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па заканадаўству, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па эканамічнай палітыцы і рэформах*

73. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ахове працы ў Рэспубліцы Беларусь» (другое чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

74. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб амністыі» (першае чытанне).

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

75. Аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб службовых асобах, упаўнаважаных складаць пратаколы аб правапарушэннях, прадугледжаных артыкулам 172[1] Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях».

*Цярэшка І.І., дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### ПЕРАЛІК ПЫТАННЯЎ АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У НЕКАТОРЫЯ ЗАКАНАДАЎЧЫЯ АКТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА СТАНУ НА 27 ЖНІЎНЯ 1996 ГОДА (дадатак да п.64)

1. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню*

2. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў».

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

3. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь».

*Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь, нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

4. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэтнай сістэме Рэспублікі Беларусь».

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

5. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб унутраным дзяржаўным доўгу Рэспублікі Беларусь».

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

6. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змянення ў Закон Рэспублікі Беларусь «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1996 год».

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах*

7. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь».

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

8. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб статусе ваеннаслужачых».

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю*

9. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб калектыўных дагаворах і пагадненнях».

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

10. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб парадку вырашэння калектыўных працоўных спрэчак (канфліктаў)».

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

11. Аб праекце Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі».

*Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай палітыцы і працы*

(Заканчэнне на 3-й стар.)

